Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 9 (61) Вільня, 3-га траўня 1935 г. Год 3-ці.

## Сучаснасьць і будучыня Беларусі.

III.

**Геолёгічная структура Беларусі.**

З пункту гледжаньня геолёгічнага Беларусь творыць два розныя абшары—паўночны і паўднёвы. Падложам першага служыць крэйда, пакрытая грубым пластом ледніковых матар'ялаў, якія твораць белыя ўзгоркі, як напр.: Замковая гара ў Навагрудку (324 мэтраў над паверхняй мора), Лысая гара на поўнач ад Менску (343 м. н. п. м). і г. д. — гэта так званыя „ледніковыя марэны".

На гэтым абшары патварылася шмат глебаў пясчаных, вапністых і камяністых, а ў далінах — шмат вазёраў.

Паўднёвую частку Беларусі становіць палеская катлавіна з нейкім падложам крысталічным, дасюль яшчэ дакладна недасьледываным. Катлавіна гэтая паложана на 100—150 м. н. п. м. ды вельмі нязначна пахілена на ўсход. Палеская катлавіна пакрыта ўспомненымі марэнавымі пластамі ў значна меншай меры. На паверхні яе патварылася шмат балотаў, мокрых лугоў ды багнаў. У мясцох больш высокіх, а тым самым, і больш сухіх, спатыкаем пяскі й гліны розных сартоў і дзеля гэтага на даволі невялікіх абшарах знаходзім шмат розных глебаў, пераважна благіх.

На ўсім гэтым абшары геолёгічныя досьледы выкрылі дзе-ні-дзе невялікую колькасьць фасфарытаў, солі, крэйды ды торфу.

Пералічанае мінэральнае багацьце не дасьць адпаведных варункаў для будучай прамысловасьці Беларусі, але затое багатыя лясныя пушчы, лугі, сенакосы й палі даюць вялізарныя магчымасьці для сельскае гаспадаркі, а нават часткова й для промыслу й жывёла-гадоўлі.

Разглядаючы дзеля гэтага будучыню Беларусі ў пэрспэктыве, трэба зазначыць, што чакае яе вялізарная й інтэнсыўная праца па асушцы балот і багнаў для атрыманьня вельмі ўраджайных чарназёмаў, лугоў ды мурожных сенакосаў.

Павінны быць адначасна зроблены высілкі: для палепшаньня мэтадаў сельскае гаспадаркі, для рацыянальнай нацыяналізацыі лясное й рыбнае гаспадаркі, для палепшаньня вадзянога транспарту, для пабудаваньня новых грунтовых дарогаў (шосаў).

Пасьля надзяленьня малазямельных сялян зямлёю, пасеецца лён, каноплі і лепшыя сарты збожжа, найбольш адпавядаючыя нашаму клімату, пабудуюцца фабрыкі мясных і рыбных кансэрваў, тартакі, цагельні, бравары й малачарні, ўзмацуецца й упарадкуецца коопэратыўны рух і г. д.

Тады адкрыюцца перад Беларусяй шырокія экспортовыя пэрспэктывы. А экспорт свой Беларусь павінна будзе скіраваць толькі й выключна на захад — у краіны з разьвітым жалезным, машынным, хімічным і г. д. промыслам.

Прадукты Беларусі будуць выбіраць найтанейшыя й найкарацейшыя шляхі экспортнага транспарту — шляхі вадзяныя — на Балтыцкае мора і найкарацейшыя транзытныя шляхі праз Польшчу на Захад. Акром таго, сама Польшча, як краіна густа заселеная, даваць будзе даволі вялікія рынкі збыту.

Экспорт сельска-гаспадарскае прадукцыі на ўсход будзе бязмэтным дзеля таго, што на перашкодзе будуць стаяць: з аднаго боку вялізарныя прасторы, транспарт праз каторыя будзе шмат даражэйшы, а з другога боку такі-ж самы сельска-гаспадарскі характар Расеі, каторая не зважаючы на разьвіцьцё свайго промыслу, заўсёды застанецца краінай вялікіх сельска-гаспадарскіх магчымасьцяў.

IV.

**З мінулага Беларусі.**

Сувязь літоўцаў з князьствамі рускімі сягае глыбокае мінуўшчыны. Так напр. яшчэ ў XI в. бачым, што літоўскія плямёны знаходзяцца ў значнай залежнасьці ад Кіеўскага князя, катораму й плацяць азначаную даніну.

У сувязі аднак з аслабленьнем Кіеўскага княства, што прыпадае на палову XII в., залежнасьць гэтая ступнёва слабее, а ў XIII в., пасьля разгрому Кіеўскага княства татарамі, Літва ня толькі ўнезалежніваецца, але й здабывае сабе значную перавагу над усімі землямі, паложанымі на поўнач ад Прыпеці.

Падчас тварэньня й гуртаваньня Літоўскае дзяржавы, што прыпадае на палавіну XIII в., на так зв. землях „рускіх" пануе вялікі хаос. Дзьве сільнейшыя рускія дзяржаўныя адзінкі, якія пачынаюць зарысоўвацца й афармляцца на гэтым хаотычным небасхіле — гэта Галіцка - Уладзімірскае княства й далёка паложаная ад яго так зв. Русь Суздальская, пазьнейшая Масковія,—ня маюць у той час амаль што ніякага ўплыву на тэрыторыю сёньняшняй Беларусі.

Наймацнейшым тады беларускім дзяржаўным арганізмам было княства Полацкае, ад каторага, аднак, хутка аддзяляецца Віцебшчына й Смаленск.

Унутраная палітычная грызьня паміж апошнімі княствамі дае магчымасьць Літве загарнуць гэныя землі пад сваё панаваньне. Літоўская экспансыя ў шырокім маштабе пачынаецца ўжо ад панаваньня Міндоўга, каторы далучыў да свае дзяржавы так зв. Русь Чорную, г. зн. Наваградак—Слонім—Горадню. Такое пашырэньне для Літвы мела вялізарнае значэньне, бо-ж давала ёй добры рэзэрвуар людзкога й матар'яльнага багацьця для барацьбы з найвялікшаю мілітарнаю сілаю сярэднявечча—крыжакамі. З другога боку, аднак, такое пашырэньне Літвы коштам беларускіх земляў, нясло для яе адначасна і небясьпеку, бо-ж беларускі элемэнт пераважаў ліцьвіноў ня толькі лічбова, але й культурна.

Па сьмерці Міндоўга Літва на нейкі час крыху слабее, але хутка пачынае ўмацоўвацца й пашырацца яшчэ з большаю сілаю. Ужо Гедымін (1315—1345) далучае да свае дзяржавы Полацк і Віцебск на поўначы ды Тураў і Пінск—на паўдні.

Альгерд (1345—1378) перакідае свой імпэрыялістычны апэтыт на Валынь ды Русь Кіеўскую, хочучы такім чынам загарнуць усю „Русь". Падчас панаваньня Вітальда (1392—1430) Літве паддаецца ўрэшце й Смаленск, каторы найдаўжэй змагаўся за сваю незалежнасьць.

Адначасна з гэтым Літва здабывае сабе перамоўжны ўплыў на Пскоў ды Вялікі Ноўгарад і такім чынам дасягае кульмінацыйнага пункту свае дзяржаўнае магутнасьці.

У гэтым вось больш-менш часе (1385 г.) вялізарная Літоўская дзяржава й лучыцца вуніяй з Польшчай.

Апаноўваньне Літвою рускіх земляў праходзіла прынцыпова праз тры фазы: 1) змушаньне таго ці іншага рускага князя падпарадкавацца вялікаму князю Літоўскаму, 2) замена тамашняе княжаскае рускае дынастыі якім-небудзь прадстаўніком шматлікага роду Гедымінавічаў, 3) ліквідацыя паасобных удзельных княстваў (незалежна ад таго ці яны былі рускія ці літоўскія) ды ператварэньне іх у намесьніцтва Вялікага Князя Літоўскага, што ў адносінах да шмат якіх удзельных княстваў удалося зрабіць Вітальду.

Таму падчас тварэньня польска-літоўскае вуніі ня ўсе землі аднолькава былі зьвязаны з Літвою. Усе землі, уваходзячыя ў склад так зв. Літвы дзяліліся на: 1) такія, каторыя будучы пад уладаю намесьнікаў Вялікага князя, былі зусім зьвязаны з Літвою, як напр. усе землі беларускія, 2) такія, дзе панавалі яшчэ ўдзельныя князі, як напр. Валынь, Кіеўшчына, Ноўгарад—Северск і ім пад. і ўрэшце 3) такія, якія вельмі слаба й фактычна толькі дачасна былі зьвязаны з Літвою, як напрыклад Пскоў ды Вялікі Ноўгарад. Такім чынам толькі землі першае групы настала злучыліся з Літвою, бо-ж пашырэньню Літвы на паўночны-усход перашкодзіла Масква, апаноўваючы у 1479 годзе Вялікі Ноўгарад ды выпіраючы адначасна Літву з так зв. вярхоўскіх княстваў і з Пскова. У тым-жа больш-менш часе паўднёвыя землі-анэксы падпадаюць пад уплывы Літоўскага саюзьніка — Польшчы, да каторае канчальна й далучаюцца ў 1569 годзе.

Такім чынам пад Вялікім Княствам Літоўскім трэба разумець толькі самую Літву ў вузкім значэньні гэтага слова ды Беларусь у сёньняшнім этнографічным акрэсьленьні яе тэрыторыі.

(Працяг будзе).

## Памёр Ул. Жылка.

Як даведваемся з Латвіі, нядаўна памёр у БССР на сухоты ведамы беларускі паэт *Уладзімір Жылка*.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

